ЧЭРВЕНЬ, 2011

# ПРАВАабарончы ВЕСНІК

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Як перайсці ад кіравання да самакіравання? Тэорыя і практыка
СТАР. 3

Гомельскія апазіцыянеры намераны дабіцца дазволу на мітынг
СТАР. 4

## Алесь Бяляцкі:
## «САМАДУРСКІЯ ЗАКОНЫ ЗЬЯЎЛЯЮЦЦА БОЛЬШ ВАЖНЫМІ ДЛЯ СУДУ»



**Суд Цэнтральнага раёна Менску пакінуў у сіле папярэджаньне Генэральнай пракуратуры старшыню Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесю Бяляцкаму**

**Віцэ-прэзыдэнта Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека (FIDH) Алеся Бяляцкага вінавацяць у дзейнасьці ад імя незарэгістраванай арганізацыі.**

Праваабаронца Алесь Бяляцкі дамагаўся ў судзе адмены папярэджаньня генпракуратуры ад 16 лютага гэтага году, якое ён лічыць незаконным. У ім сьцьвярджаецца, што на сайце spring96.org ды іншых сыстэматычна разьмяшчаецца інфармацыя пра дзейнасьць праваабарончага цэнтру «Вясна» праз публікацыю заяваў, выступаў і камэнтароў яго кіраўніка Алеся Бяляцкага. Згадваецца артыкул у інтэрнэце «Мінюст пакараў адвакатаў» ад 5 студзеня, дзе ідзе гаворка пра ціск на абаронцаў удзельнікаў Плошчы 19 сьнежня 2010 года ў Менску..

Таксама ў папярэджаньні пракуратура прыгразіла, што пры далейшым парушэньні заканадаўства будзе разгледжана пытаньне аб прыцягненьні Бяляцкага да адказнасьці згодна з законамі.

У сакавіку Алесь Бяляцкі зьвяртаўся да генпракурора Рыгора Васілевіча з просьбай адмяніць папярэджаньне, але той прызнаў яго абгрунтаваным. У судзе прадстаўнік пракуратуры Павел Елісееў пацьвердзіў, што дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі ў Беларусі забароненая. Ён адзначыў, што праваабаронцу могуць прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці па артыкуле 193-1 за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі.

Бяляцкі сказаў у судзе, што насамрэч уладам не падабаецца ацэнка праваабарончым цэнтрам «Вясна» сытуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Цэнтар быў пазбаўлены афіцыйнай рэгістрацыі, і з 2003 году Міністэрства юстыцыі «выконвае палітычную замову, не рэгіструючы наогул праваабарончыя арганізацыі». А дзеяньні генпракуратуры, паводле Бяляцкага, вядуць да стварэньня нэгатыўнага іміджу Беларусі ў вачах міжнароднай супольнасьці.

- Мая дзейнасьць і дзейнасьць праваабарончага цэнтру ў цэлым ажыцьцяўляецца выключна ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй Беларусі.

**працяг на ст. 2**

## Павел Сапелка:
### Пасля працэсаў па справе 19 снежня Мінюст хоча аддаць адвакатам "па заслугах"

*Беларускі адвакат накіраваў у Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь зварот з нагоды Загаду Міністэрства юстыцыі пра пазачарговую атэстацыю адвакатаў. Ён указвае, што гэты дакумент парушае і міжнародныя прававыя нормы і палажэнні нацыянальнага заканадаўства. Былы адвакат лічыць гэты крок Мінюста чарговай спробай умяшальніцтва ў дзейнасць незалежнага інстытута адвакатуры і расправы з адвакатамі, якія прыйшліся не да спадобы.*

У адпаведнасці з Загадам Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь ад 30 траўня 2011 года № 135, да 5 чэрвеня павінны быць утвораны тэрытарыяльныя атэстацыйныя камісіі з прадстаўнікоў галоўных упраўленняў юстыцыі, органаў адвакацкага самакіравання, дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў, судоў і прадстаўнікоў юрыдычнай навукі.

У сувязі з гэтым у сваім звароце Павел Сапелка адзначае, што паводле дзеючых нормаў заканадаўства "атэстацыю адвакатаў праводзіць атэстацыйная камісія калегіі адвакатаў, якая прызначаецца прызідыумам адпаведнай калегіі адвакатаў. Склад атэстацыйнай камісіі фармуецца з не менш за пяцёх кваліфікаваных адвакатаў, якія маюць стаж працы ў адвакатуры не менш за пяць гадоў і не падлягаюць атэстацыі на дадзены момант". На гэтым фоне склад атэстацыйных камісій, прапісаны ў Загадзе Мінюста, не вытрымлівае крытыкі.

- Па-першае, усе сябры гэтых камісій за выключэннем адвакатаў наўрад ці ў поўнай меры ўяўляюць усю спецыфіку працы адваката. І я сумняюся, што дзесьці, акрамя Беларусі, ёсць такая форма праверкі адпаведнасці адваката кваліфікацыйным патрабаванням менавіта сіламі дэпутатаў, суддзяў, работнікаў органа ўпраўлення Міністэрства юстыцыі.

**працяг на ст. 2**



# Алесь Бяляцкі: «Самадурскія законы зьяўляюцца больш важнымі для суду»

(пачатак на 1 стр.)

- У гэтым выпадку генпракуратура выконвае палітычны загад на абмежаваньне грамадзянскіх правоў і свабодаў беларускіх грамадзянаў, замест таго каб бараніць гэтыя правы».

Старшыня Беларускага хэльсынскага камітэту Алег Гулак, які выступіў у судзе як прадстаўнік грамадзкасьці, адзначыў, што дзейнасьць праваабарончага цэнтру «Вясна» ніяк не пярэчыць заканадаўству. Ён згадаў, што зьяўляецца сябрам грамадзка-кансультацыйнай рады пры адміністрацыі прэзыдэнта, якая нідзе не зарэгістравана.

«Адносна 193-га артыкула, пра які сказаў у судзе прадстаўнік пракуратуры, то ён ніяк не адпавядае Канстытуцыі. Пракуратура ня можа нам сфармуляваць, якія ж дзеяньні спадара Бяляцкага могуць быць грамадзка небясьпечнымі, і якую грамадзкую небясьпеку наогул гэтая дзейнасьць уяўляе».

Судзьдзя Алена Сямак не задаволіла скаргу Алеся Бяляцкага і пакінула ў сіле папярэджаньне генпракуратуры. Спадар Бяляцкі заявіў, што абскардзіць гэтае рашэньне ў Менскім гарадзкім судзе і працягне праваабарончую дзейнасьць:

«Самадурскія мясцовыя законы зьяўляюцца больш важнымі для суду, чым міжнародныя пагадненьні. Я маю на ўвазе крымінальны артыкул 193-1. Задачай гэтага працэсу было жаданьне яшчэ раз прыцягнуць увагу грамадзкасьці да гэтага артыкулу. Бо сотні няўрадавых арганізацый у Беларусі ня маюць рэгістрацыі, і тысячы людзей знаходзяцца пад пагрозай крымінальнага перасьледу з боку дзяржавы. Мы пратэстуем супраць існаваньня гэтага артыкулу».

> “Мы проста размаўляем на розных мовах у прамым і пераносным сэнсе - аб рашэнні суда”

Праваабаронца Валянцін Стэфановіч адзначыў, што Вэнэцыянская камісія разгледзіць адпаведнасьць гэтага артыкула Канстытуцыі. Камэнтуючы рашэньне суду, ён адзначыў:

«Мы проста размаўляем на розных мовах у прамым і пераносным сэнсе. Бо нашы аргумэнты адносна пакту і міжнародных нормаў, у тым ліку і Канстытуцыя, судом, у прынцыпе, не ацэньваліся. Мы застаёмся пры сваім. Мы лічым, што наша дзейнасьць абсалютна законная. Мы яе будзем працягваць далей. І ўсе гэтыя рашэньні будзем абскарджваць у Камітэце па правах чалавека ААН і будзем дамагацца поўнай адмены 193-га артыкула. Бо гэта недапушчальна для эўрапейскай краіны мець такі артыкул у Крымінальным кодэксе».

## Павел Сапелка: Пасля працэсаў па справе 19 снежня Мінюст напэўна хоча аддаць адвакатам “па заслугах” (пачатак на 1 ст.)

- Хіба што такое магчыма яшчэ дзесьці ў сярэднеазіяцкіх рэспубліках былога СССР, - адзначае П.Сапелка. Па-другое, так ці інакш, усе яны звязаныя з органамі ўлады і кіравання і гэта па сутнасці форма ціску на адвакатуру”.

Юрыст падкрэслівае, што ў прынцыпе з'яўленне гэтага Загаду нельга разглядаць інакш як форму ціску на адвакатуру.

Гэты інстытут з'яўляецца незалежным паводле азначэння, што выключае ўсялякае ўмяшальніцтва ў яго дзейнасць. Акрамя таго, дадзены Загад супярэчыць розным нарматыўным актам, рэгулюючым адвакацкую дзейнасць, у тым ліку палажэнням Закона “Аб адвакатуры” і Пастанове самога ж Міністэрства юстыцыі “Аб зацверджанні Інструкцыі аб парадку правядзення атэстацыі адвакатаў”. І пра пазачарговую атэстацыю адвакатаў напрамую нідзе не гаворыцца.

“Ужо сам факт узнікнення гэтай ідэі сведчыць пра тое, што, відавочна, Міністэрства юстыцыі хоча нейкім чынам правесці лёгкі перагляд сябраў калегій і напэўна адсеяць тых, хто з нейкіх прычынаў прыйшоўся не да спадобы органам улады і кіравання, а магчыма і судам”, - мяркуе П.Сапелка.

Аднак тут трэба адзначыць, што Указ Прэзідэнта “Аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці” напрамую не прадугледжвае ў якасці падставы для пазбаўлення ліцэнзіі непраходжанне атэстацыі.

“Але ўзнікае падазрэнне, што Мінюст будзе шырока трактаваць гэты Указ і нейкім чынам зможа абгрунтаваць адлічэнне тых ці іншых адвакатаў з калегіі альбо пастаноўку пытання пра пазбаўленне іх ліцэнзіі, - перасцерагае П.Сапелка. А судовая перспектыва абскарджання ўжо зараз зразумелая. Мы мелі магчымасць назіраць гэта на прыкладзе тых адвакатаў, якія ўжо абскарджвалі пазбаўленне ліцэнзіі - безвынікова”.

Мінюст тлумачыць неабходнасць пазачарговай атэстацыі ўсіх адвакатаў Беларусі - з абласных і Мінскай гарадской калегій мэтамі падвышэння адказнасці і якасці выканання імі прафесійных абавязкаў. Але, напрыклад, для былога адваката відавочныя іншыя мэты:

“Я мяркую, што зараз пасля таго, як адбыліся вядомыя працэсы па справе 19 снежня, пасля праверак, якія праводзіліся ў калегіях адвакатаў Мінюст напэўна хоча, як кажуць, аддаць адвакатам “па заслугах”.

Павел Сапелка не бачыць праблемаў у тым, каб яго зварот быў разгледжаны ў дастаткова кароткія тэрміны. Аднак у любым выпадку юрыст лічыць, што Канстытуцыйны Суд павінен даць ацэнку дадзенаму Загаду Мінюста, інакш гэты Загад можа быць не апошнім у сваім родзе.

**“Праваабарончая хроніка”**



# Ад кіравання да самакіравання

## Тэорыя і практыка

*Гомель, Леанід Судаленка*
*http://gomel-experts.org/*

***Літаральны аналіз нормаў закона «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» сапраўды дазваляе пагадзіцца з прэтэнзіямі актывістаў - так званыя «народныя выбраннікі» не маюць права пазбавіць грамадзянаў ўносіць праекты сваіх рашэнняў у гарадскі Савет дэпутатаў.***

Разам з тым, увагу грамадзянскай кампаніі хочацца звярнуць на той факт, што базавы закон аб мясцовым кіраванні і самакіраванні надзяляе грамадзян вырашаць свае пытанні не толькі праз гарадскія Саветы дэпутатаў, але і самастойна. Іншымі словамі тэарэтычна накшталт нішто не перашкаджае перайсці ад кіравання да самакіравання!

А што на практыцы?

Закон устанаўлівае, што мясцовае самакіраванне - форма арганізацыі і дзейнасці насельніцтва, якое пражывае на адпаведнай тэрыторыі для самастойнага рашэння непасрэдна або праз абраныя ім органы сацыяльных, эканамічных і палітычных пытанняў мясцовага значэння зыходзячы з агульнадзяржаўных інтарэсаў і інтарэсаў грамадзян. Фактычна мы самі, жыхары Гомеля на заканадаўчым узроўні надзелены правам як самастойна, так і праз абраныя намі органы вырашаць любога роду пытанні сваёй жыццядзейнасці.

А паколькі мясцовыя Саветы дэпутатаў у нашай краіне на працягу паўтара дзесятка гадоў фактычна з"яўляюцца прыдаткам выканаўчай улады і самастойна без яе ўказкі не вырашаюць ні аднаго з асноўных пытанняў жыццядзейнасці сваіх выбаршчыкаў, пастолькі грамадзяне маюць поўнае права вырашаць свае пытанні самастойна, без апеляцыі да дэпутатаў. Да таго ж, варта прызнаць шчыра, паўнамоцтваў у мясцовых Саветаў няма, тут ніякі рэгламент не дапаможа.

Аб мясцовых Саветах дэпутатаў доўга разважаць не варта. Ніколі прызначаны дэпутат не будзе працаваць у інтарэсах выбаршчыка. Ён гэта як ніхто іншы разумее, ведае, хто яго пасадзіў у крэсла дэпутата і ад выбаршчыка ён не залежыць. Для таго, каб мясцовыя Саветы дэпутатаў сапраўды запрацавалі ў інтарэсах выбаршчыка ў нашай краіне неабходна мяняць усю палітычную сістэму. На рэгіянальным узроўні гэтае пытанне ніколі не вырашыць. Цвіком тут з'яўляецца прыняцце нашай краінай Еўрапейскай Хартыі самакіравання.

Да органаў тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання (ОТГС) заканадавец адносіць дзейнасць грамадзян на добраахвотнай аснове па месцы іх жыхарства ў форме саветаў і камітэтаў мікрараёнаў, жыллёвых комплексаў, дамавікоў, вулічных, квартальных, пасялковых, сельскіх камітэтаў і іншых органаў, у тым ліку аднаасобных. Вось дзе здаецца "непаханае поле" для самарэалізацыі актыўнай і неабыякавай часткі насельніцтва нашага горада! Ёсць праблема, якую хочацца вырашыць? Калі ласка, аднаасобна ці праз аб'яднанне ў дваровай камітэт высоўвай патрабаванні выканаўчай уладзе!

Аднак па перакананні беларускіх экспертаў, нават калі людзі праяўяць грамадзянскую ініцыятыву і па ўласным жаданні захочуць нешта ажыццявіць, магчымасцяў у іх мізэр, паколькі сам базавы закон не надзяляе ОТГСы ўладнымі паўнамоцтвамі, роўна як і крыніцамі фінансавання.

Заканадавец замацаваў права грамадзян ініцыяваць правядзенне мясцовага сходу або мясцовы рэферэндум? Як мне ўяўляецца, адной з найбольш сур'ёзных і важных праблем у гэтай частцы з'яўляецца нізкі ўзровень матывацыі ўдзелу грамадзян у тых або іншых формах самакіравання. Гэтая праблема не толькі Беларусі, яна актуальная і ў многіх іншых краінах. Прэцэдэнтаў правядзення мясцовых рэферэндумаў у нашай краіне да гэтага часу заўважана не было. Былі спробы асобных ініцыятыўных людзей, якія месцамі дамагаліся прарываў. Але як толькі яны прыйдуць, як калісьці Каліноўскі, да мужыка, у адказ сапраўды пачуюць: «А што мы будзем ад гэтага мець? Лукашэнка нам газ правядзе, а што можаце Вы? Мы гаспадары ў сваім двары, а аднолькавыя платы паставіць дзяржава», - так, на жаль, яшчэ лічыць большасць.

Еўрапейскія праграмы мясцовага развіцця мяркуюць ўключэнне шырокага кола суб'ектаў ў працэс рэалізацыі мясцовых Праграм, у той час як у Беларусі адзіным суб'ектам выступае беларуская ўлада. Калі ў нас параметры развіцця краіны задаюць кірункі і характарыстыкі мясцовага развіцця, то ў Еўропе ўсё наадварот. Дзяржаўная стратэгія ў нас накіравана на развіццё каманднa-адміністрацыйнага прынцыпу, а еўрапейскі падыход - развіццё свядомасці суб'ектаў (самаарганізацыя на месцах).

Іншымі словамі, да сапраўднага мясцовага самакіравання нам яшчэ, як да Луны. Відавочна, сітуацыя можа змяніцца толькі тады, калі мясцовыя органы атрымаюць ад Цэнтра вялікія паўнамоцтвы. Аднак афіцыйны Менск у сілу вядомых прычын на гэта наўрад ці пойдзе.

Вяртаючыся да ініцыятывы грамадзянскай кампаніі "Наш дом" аб праве грамадзян ўносіць у гарадскі Савет праекты рашэнняў сесій я лічу, што дадзеная ініцыятыва «згарыць» як тая запалка, кінутая ў агонь. Хоць калі глядзець на гэтую ініцыятыву знізу, не можа не радаваць той факт, што ў нашым горадзе ўжо з'яўляюцца грамадзяне, што абарочваюць увагу насельніцтва горада на пытанне як быць гаспадаром на сваёй зямлі ...

**КДБ вярнула гомельскім апазіцыянерам няспраўны капір.** «Мы адмовіліся яго забраць, і прапанавалі спецслужбам паправіць тэхніку. Сёння супрацоўнікі КДБ патлумачылі нам, што майстар, якога яны выклікалі, вынес вердыкт аб тым, што капір стары і рамонту не падлягае. Хоць у нас яго забралі ў працоўным стане», - паведаміў БелаПАН актывіст руху «За Свабоду» Уладзімір Кацора.

Паводле яго слоў, гаспадыня дома, у якім арандуе офіс абласная арганізацыя АГП, Зінаіда Шуміліна ў распісцы для КДБ адзначыла, што капір вярнулі ў няспраўным стане. Кацору вярнулі і кампутарную мыш, якой не аказалася 16 траўня на месцы.

"Адзін з супрацоўнікаў КДБ узяў яе на час пакарыстацца свайму сыну, так мне і растлумачылі мінулы раз. Зараз вярнулі і мыш", - дадаў актывіст.

Нагадаем, 10 кампутараў і ноўтбукаў былі канфіскаваныя падчасператрусаў 6 і 26 студзеня ў офісе АГП і на кватэрах старшыні абласной арганізацыі АГП Васіля Палякова і праваабаронцы Леаніда Судаленкі. Свае дзеянні супрацоўнікі КДБ патлумачылі тым, што кампутары могуць быць рэчавымі доказамі па крымінальнай справе 19 снежня. *Naviny.by.*

**За згублены тэлефон КДБ узяло распіску.** Як паведаміў Анатоль Паплаўны, супрацоўнік КДБ узяў з яго распіску пра адсутнасць прэтэнзій:

- Да мяне патэлефанаваў супрацоўнік КДБ Марыніч, які канфіскоўваў у студзені месяцы тэхніку ў Грамадска-палітычным цэнтры па вуліцы Палеская, 52. Пад канфіскацыю трапіў і мой тэлефон. Аднак мабільны быў згублены. Як вядома, супрацоўнікі КДБ зараз пачалі вяртаць назад канфіскаваную тэхніку, а тэлефона няма. І яны заклапочаныя, што рабіць. Таму супрацоўнік КДБ прыйшоў і ўзяў у мяне распіску, што тэлефон знаходзіцца ў мяне, выгляд і тэхнічны стан апарата нармальны.

Згублены мабільны тэлефон гомельскага праваабаронцы не першая канфіскаваная рэч, якую згубілі супрацоўнікі КДБ. Так, у нетрах КДБ бясследна знік польскі ратапрынтар часоў "Салідарнасці", што належыў Гомельскаму грамадска-палітычнаму цэнтру па вуліцы Палеская, 52. *Радыё Рацыя.*



# ГОМЕЛЬСКІЯ АПАЗІЦЫЯНЕРЫ НАМЕРАНЫ ДАБІЦЦА ДАЗВОЛУ НА МІТЫНГ



Маладафронтавец Андрусь Цянюта падаў у Гомельскі гарвыканкам заяўку на правядзенне масавага мерапрыемства. Сумесна мітынг арганізуюць кааліцыя «Наша альтэрнатыва», гомельскія Аб'яднаныя дэмакратычныя сілы ды кампанія «Гавары праўду!». Акцыю сацыяльнага напрамку апазіцыя запланавала на нядзелю, 3 ліпеня.

Як паведаміў актывіст «Нашай альтэрнатывы» Кастусь Жукоўскі, арганізатары маюць намер ісці да канца і дабіцца дазволу на правядзенне мітынга. Між тым, ужо сем гадоў у Гомелі не было ніводнага апазіцыйнага мерапрыемства, усе заяўкі ўлады адхілялі. Здавалася, сітуацыя зрушылася на сёлетні Першамай: гарвыканкам нечакана дазволіў партыі «Справядлівы свет» арганізаваць мітынг. Аднак хутка ўсё увайшло у звыклую каляіну. Відаць, улады спужаліся, наколькі актыўна апазіцыя заклікае гараджан на мітынг, і адазвалі сваё рашэнне. Фармальна — з-за рамонту труб.

«Мы плануем падаць яшчэ некалькі заявак - як запасны варыянт на той выпадак, калі раптам на плошчы зноў пацякуць трубы, - кажа Жукоўскі. - Выканаем усе умовы ўладаў, заплацім - як яны таго патрабуюць - за паслугі міліцыі, камунальнікаў і хуткай дапамогі. Не будзем, як раней, сядзець і чакаць, пакуль з гарвыканкаму дашлюць звыклую адмову».

На мітынгу апазіцыянеры хочуць узняць выключна сацыяльныя пытанні: чаму бяднее народ, калі скончыцца эканамічны крызіс, чаму насуперак сваім абяцанням улады правялі дэвальвацыю рубля, што будзе з заробкамі.

**“Праваабарончая хроніка”**

**У абласны Савет дэпутатаў хутка накіруюць сабраныя подпісы дэмакратычныя актывісты з Гомеля, Светлагорску, Жлобіна ды іншых раённых цэнтраў. 1 чэрвеня, у Міжнародны дзень абароны правоў дзяцей, Каардынацыйная рада гомельскіх аб'яднаных дэмакратычных сіл сабралася на паседжанне і прыняла рашэнне сабраць подпісы пад зваротам да ўладаў.**

**Каб пазбегнуць дыскрымінацыі навучэнцаў Гомельскай вобласці ў параўнанні з навучэнцамі Мінска, дзе Саветам дэпутатаў ужо прынята рашэнне аб дадатковых мерах па сацыяльнай падтрымцы навучэнцаў пры праездзе ў грамадскім транспарце, апазіцыянеры прапануюць прыняць аналагічнае рашэнне ў Гомельскай вобласці. А менавіта вярнуць бясплатны праезд на аўтатранспарце агульнага карыстання рэгулярнага гарадскога паведамлення і гарадскім электрычным транспарце навучэнцам агульнаадукацыйных устаноў і ўстаноў спецыяльнай адукацыі.**

## ЗА БЯСПЛАТНЫ ПРАЕЗД ДЗЕЦЯМ




## *ААН абвясціла свабодны доступ у інтэрнэт правам чалавека*

ААН уключыла свабодны доступ у інтэрнэт у спіс базавых правоў чалавека, паведамляе The Atlantic.

Як падкрэсліваецца ў дакладзе, прадстаўленым у мінулую пятніцу на паседжанні арганізацыі, інтэрнэт гэта «незаменны інструмент рэалізацыі шэрагу правоў чалавека, барацьбы з няроўнасцю і развіцця прагрэсу».

Даклад ААН, які выступае ў падтрымку вольнага выкарыстання інтэрнэту ў якасці неад'емнай камунікацыйнай платформы для ўсіх дэмакратычных таварystваў, таксама расказвае, якім ворагам ён паўстае ў вачах чыноўнікаў.

«Велізарны патэнцыял і перавагі інтэрнэту заключаюцца ў хуткасці перадачы інфармацыі, агульнадаступнасці і ананімнасці. У той жа час, гэтыя ўласцівасці, што дазваляюць чалавеку распаўсюджваць інфармацыю ў рэальным часе, сеюць страх сярод урадаў. Гэта вядзе да росту абмежаванняў на інтэрнэт за кошт выкарыстання больш сучасных тэхналогій, якія дазваляюць блакаваць утрыманне інфармацыі, выяўляць актывістаў, караць іх і прымаць законы, якія дазваляюць рабіць гэта», гаворыцца ў дакладзе.

У пацверджанне гэтай думкі аўтары нагадваюць пра абмежаванне доступу да Twitter і Facebook у арабскіх краінах, ахопленых масавымі антыўрадавымі хваляваннямі, і крымінальны пераслед заснавальніка Wikileaks Джуліяна Асанжа.

У дакладзе падкрэсліваецца: «забяспечанне доступу да інтэрнэту для ўсіх мусіць быць адным з прыярытэтных напрамкаў дзейнасці любой дзяржавы».

Праваабарончы веснік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.